ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Сакавік, 2015

## У НУМАРЫ:

### Правы спажыўцоў – кожнаму!

***Змены ў закон "Аб абароне правоў спажыўцоў"***

**- Пазіцыя дэпутата Русак**

**- Пазіцыя дэпутата Сенькевіча**






НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

15 февраля 2015 №8-В

на №

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Ваш зварот аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» мной разгледжаны.

Адносна пытання, пастаўленага ў звароце, паведамляю наступнае.

У адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

Згодна з часткай другой артыкула 2 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Артыкуламі 13 і 30 гэтага Закона прадугледжана, што на транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская або руская мова, а пры неабходнасці — іншыя мовы, маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі па карыстанні таварамі выконваюцца на беларускай або рускай мове.

Пунктам 9 артыкула 7 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» устаноўлена, што адпаведная інфармацыя на беларускай або рускай мове выразным і разборлівым шрыфтам даводзіцца да ведама спажыўца ў дакументацыі, якая прыкладаецца да тавараў (работ, паслуг), на спажывецкай тары (упакоўцы), этыкетках або іншым спосабам, прынятым для асобных відаў тавараў (работ, паслуг).

Згодна з пунктам 4 артыкула 8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» інфармацыя аб вытворцах (выканаўцах, прадаўцах), прадугледжаная пунктамі 1 і 2 гэтага артыкула, даводзіцца да ведама спажыўца на беларускай або рускай мове.

У звароце Вамі прапануецца ўнесці ў пункт 9 артыкула 7 і пункт 4 артыкула 8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» змяненні, згодна з якімі ўказаная інфармацыя будзе даводзіцца да ведама спажыўцоў на беларускай <u>і</u> рускай мовах.

Аднак, на мой погляд, унясенне ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» змяненняў, якія прадугледжваюць абавязак вытворцы (прадаўца, пастаўшчыка, прадстаўніка, выканаўцы) прадстаўляць інфармацыю на дзвюх мовах, з’яўляецца немэтазгодным, таму што прывядзе да дадатковых выдаткаў, а такім чынам да павышэння цэн на тавары (работы, паслугі). Таксама лічу, што размяшчэнне неабходнай інфармацыі на дзвюх мовах на спажывецкай тары (упакоўцы), этыкетках на практыцы будзе ўскладнена з-за павелічэння аб’ёму прадстаўляемай інфармацыі ў два разы.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў В.У.Русак

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

24.02.2015 №

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

На Ваш зварот па пытанні аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня 2002 г. № 90-З “Аб абароне правоў спажыўцоў” паведамляю, што Ваша прапанова патрабуе ўсебаковай прапрацоўкі і шырокага вывучэння як сярод спажыўцоў, так і сярод вытворцаў.

Трэба адзначыць, што пункт 9 артыкула 7 “Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) вызначае, што інфармацыю аб таварах вытворца абавязаны давесці да ведама спажыўца на беларускай або на рускай мове, што адпавядае артыкулу 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) у абавязковым парадку павінна ўтрымоўваць не менш за 14 звестак аб тавары, а таксама аб складзе харчовых прадуктаў на ўпакоўцы, што ў сваю чаргу патрабуе вывучэння тэхнічных і тэхналагічных магчымасцей абсталявання па выпуску ўпакоўкі, магчымасці чытання нанесеных тэкстаў і фінансавых магчымасцей саміх вытворцаў, а самае галоўнае — любое павышэнне кошту можа выклікаць незадавальненне многіх катэгорый грамадзян.

Прымаючы да ўвагі вышэйвыкладзенае, лічу, што ўнясенне дапаўненняў і змяненняў у дадзены закон у цяперашні час з’яўляецца немэтазгодным.

З павагай,
Дэпутат Э.А.Сенькевіч

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя “Справаводства па-Беларуску”

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

M&S MEDIA